# ПАГОНЯ

Чацвер
3 лютага 2000 г.
№ 5 (452)
Кошт 70 рублёў

## «Вясну - 2000» пачалі з Каліноўскага

**2 лютага беларуская моладзь Гродна святкавала чарговую гадавіну са дня нараджэння Кастуся Каліноўскага. Да мемарыяльнай дошкі паўстанцам 1863-1864 гадоў, што на гарадзенскай чыгунцы, былі ўскладзены кветкі і павязана бел-чырвона-белая стужка.**

З 13 да 14 гадзін на вуліцы Савецкай каля Дома прафсаюзаў адбыўся несанкцыянаваны пікет. Менавіта на гэтым месцы павінен быў стаяць помнік выбітнаму змагару за незалежнасць Бацькаўшчыны. Пастанова аб гэтым была прынятая яшчэ ў 1990 годзе. Аднак вось ужо дзесяць гадоў мясцовая ўлада адмаўляецца вырашаць гэтае пытанне. Адпаведна словам удзельнікаў, «помнік Кастусю Каліноўскаму ўсё роўна з'явіцца ў Гродне, прычым на цэнтральнай плошчы горада».

Падчас акцыі інспектарам па справах непаўналетніх быў затрыманы Яўген А. Прыкладна з гадзіну яго пратрымалі ў міліцэйскім пастарунку, а пасля выпусцілі.

Гэтае святкаванне стала першай гарадзенскай ластаўкай акцыі пратэсту «Вясна-2000», у якой самы актыўны ўдзел возьме наша моладзь.

Павал Мажэйка

## Смяротны скок з тэлевежы

**Арыгінальным чынам вырашыў развітацца з жыццём 25-гадовы Р., жыхар нашага горада. 30 студзеня ён скочыў уніз з тэлевежы, што знаходзіцца ля аблтэлерадыёкампаніі.**

Мужчына пралез праз плот з боку раддома і па каркасу вежы падняўся больш як на сотню метраў. Пакуль ехала міліцыя, вартаўнікі тэлецэнтра ўгаворвалі самагубцу злезці, але ён моўчкі зрабіў крок уніз.

Перакуліўшыся некалькі разоў у паветры, бядак ўдарыўся аб зямлю. Гэта здарылася ў 22 гадзіны 20 хвілінаў, а санітары прыехалі за целам толькі раніцою.

Паводле папярэдніх звестак, непрацуючы Р. быў нежанатым. Падчас здзяйснення суіцыду пры сабе не меў аніякіх дакументаў. Што вымусіла яго скончыць жыццё самагубствам - пакуль невядома. Перадсмяротнага пасланя Р. не пакінуў.

Як паведаміў старэйшы следчы пракуратуры Ленінскага раёна Альфрэд Танкевіч, «...гэта - нармальная з'ява. У нас кожны дзень скачуць. Хто з дому, хто з балкону...» Спрэчна, нармальная гэта справа ці не, але такі выпадак за ўсю гісторыю існавання тэлецэнтра адбыўся ўпершыню.

Юлія Дарашкевіч

## Раддому патрэбна хуткая дапамога

**За мінулы год у Гарадзенскім раддоме з'явілася на свет 3 850 немаўлятаў - на 30 чалавек болей, чым у 1998 годзе.**

Ранняя дзіцячая смяротнасць склала 18 немаўлятаў на 1000 наванароджаных, што, паводле словаў галоўнага ўрача Аляксандра Высоцкага, найменшы паказчык у рэспубліцы.

Гарадзенскі раддом лічыцца адной з лепшых клінікаў гэтага кшталту ў нашай краіне, дзякуючы высокай кваліфікацыі супрацоўнікаў. 85 працэнтаў урачоў маюць кваліфікацыйныя катэгорыі.

Аднак различаць на цывільную якасць медычнай дапамогі цяжка. Так званы «новы корпус» быў пабудаваны 20 гадоў таму. Сёння пацыенткі адчуваюць складанасці з элементарным: цячэ столь, псуецца душ, скразнякі.

Разам з тым, улады горада абяцаюць сёлета капітальны рамонт гарадзенскага раддома. На гэты час клініка пераселіцца ў бальніцу хуткай дапамогі.

Алена Сіневіч




3 лютага - воблачна з праясненнямі, месцамі - ападкі, галалёдзіца, вецер паўднёва-заходні, 7-9 м/с, парывы ад 14 м/с. Тэмпература паветра ўначы -5...-10, удзень -1...-3.

4 лютага ноччу месцамі - снег, днём - воблачна з праясненнямі. Тэмпература паветра ўначы -4...-9, удзень 0...-2.

# Прадпрымальнікі і Лукашэнка. Хто каго?

**Першага лютага чарговы раз не выйшлі на рынкі гарадзенскія прадпрымальнікі. Забастоўка мае доўжыцца цэлы месяц і носіць агульнарэспубліканскі характар. Асноўная прычына - увядзенне асобнага ПДВ (падатак на дабаўленную вартасць), які складае 20 працэнтаў. У выніку чаго на тыя ж 20 працэнтаў павінны ўзрасці кошты на рынку, што, безумоўна, не можа не хваляваць звычайных пакупнікоў. Гэта ўжо трэцяя з траўня забастоўка. Аднак упэўненасці, што дамогуцца свайго, у прадпрымальнікаў няма.**




Рынак у пасёлку Паўднёвым з першага лютага выглядае вось так. Прадпрымальнікі зноў бастуюць

Першага лютага на БТ дырэктар ТАА «Рэчавы рынак» Тарасенка заявіў, што гарадзенскія прадпрымальнікі на агульнарэспубліканскі страйк не пайшлі і працуюць па-ранейшаму. Былі паказаны нават кадры з працуючага Паўднёвага рынку. Раніцай 2 лютага мы скіраваліся на Паўднёвы рынак, каб атрымаць адказ на пытанне: што вымушае прадпрымальнікаў у трэці раз за апошнія 8 месяцаў выходзіць на страйк, губляючы пры гэтым 400-500 даляраў у месяц.

Рынак «Паўднёвы», дзе звычайна гандлююць каля 2000 чалавек, сустрэў нас трыма варанамі і дзедам, які спрабаваў калоць лёд блізу пустуючых гандлёвых радоў. Прадпрымальнікі сваё слова трымалі - гандляваць не выйшлі. Праўда, каля 9 гадзін некалькі дзесяткаў з іх пад'ехалі без тавару, каб скаардынаваць дзеянні і вырашыць усё-ткі - што рабіць: выходзіць гандляваць альбо не.

У паветры вісела пытанне: «Зломім мы «бацьку», ці не зломім?»

- Шчыра кажучы, я не ведаю, што рабіць? Проста не магу разабрацца. Я веру і прафсаюзу, і Лукашэнку. Лукашэнка наплюваў на ўвесь свет, пагоніць ён і нас. Уся гэтая забастоўка без толку! - упэўнены «прыватнік», які займаецца касметыкай.

- Мы баставалі і ў траўні, і ў верасні - тады ўлады не казалі пра сілавое вырашэнне гэтай праблемы. А зараз Рыгоравіч упёрся, калі яшчэ заўпарцімся і мы, дык па ўсёй Беларусі... Такія грошы ніхто так не аддасць, - па ўсім відаць, што Сяргей настроены досыць песімістычна.

Вельмі баяцца прадпрымальнікі выстаўляць палітычныя патрабаванні, ды і наогул мецца дачыненні з палітыкай. «Пачынаць трэба з эканомікі, з эканамічных патрабаванняў, пасля пацягнецца ланцужок, і можна будзе крычаць «Далоў Луку!», - лічаць яны. Магчыма, гэта і перашкаджае цеснай спайцы прадпрымальнікаў і рабочых. Ды і не вераць прадпрымальнікі ў актыўнасць працоўнага класу. «Гэтыя, што зарабляюць па 15 мільёнаў, чаму не бастуюць? Баяцца страціць гэты заробак!?»

Аднак і сярод саміх прадпрымальнікаў няма адзінства. У Гродне працуюць усе прыватныя шапікі. Ужо 2 лютага, на другі дзень страйку, чаго ў Гродне раней не было, пачалі з'яўляцца гандляры на Скідальскім рынку. А аўторкавая заява прафсаюза «Садружнасць» па БТ, што ў суботу выходзяць на працу менскія рынкі, канчакова раскалола прадпрымальнікаў «Паўднёвага». Праўда, яны яшчэ вырашылі сабрацца ў пятніцу, але забастоўка можа і не датрываць да пятніцы - дастаткова будзе некалькім людзям выйсці на гандаль - і можна будзе казаць пра паразу беларускага прадпрымальніцтва.

Лукашэнка ганебна затаптаў рабочы рух, пасля ён вывер ногі аб палітычную апазіцыю, цяпер заціскае пятлю на прадпрымальніцтве. Ён так сказаў, што ў яго «ёсць свае прадпрымальнікі». Атрымліваецца -гэтая забастоўка апошняя надзея, апошні шанец для нармальных, разумных людзей, якія кормяць свае сем'і і хочуць аднаго - каб дзяржава ім ў гэтым не перашкаджала.

Павал Мажэйка

## Праезд зноў падаражэў

**Падвышэнне мінімальнага заробку не замінула адбіцца і на коштах праезду на міжгародных ды прыгарадных маршрутах. Пачынаючы з 27 студзеня, каб дабрацца з Гродна ў Менск на аўтобусе, трэба будзе аддаць 1 тысячу 700 рублёў, а квіток у Ліду каштуе ўжо 669 рублёў.**

Як паведамілі ПАГОНІ супрацоўнікі гарадзенскага аўтавакзала, цэны на квіткі ўстанаўліваюцца адпаведна кошту аднаго кіламетра праезду. Калі раней кіламетр на прыгарадным маршруце каштаваў 2,3 рублёў, дык цяпер 3,5 рублёў, а на міжгорадзе адпаведна 4,1 і 5,7 рублёў за кіламетр.

Аднак, лічаць аўтобуснікі, наш транспарт па-ранейшаму застаецца вельмі танным, і таму неўзабаве трэба чакаць новага падвышэння коштаў на праезд.

## «Ратуша» цяпер без Губерта

**Гарадзенскае аб'яднанне «Ратуша» больш не мае права карыстацца сімволікай з выявай аленя святога Губерта.**

Ліст з такім рашэннем, падпісаны Анатолем Пашкевічам, атрымаў 2 лютага кіраўнік «Ратушы» Алесь Мілінкевіч.

Напярэдадні Гарадзенскі выканкам вынес «Ратушы» папярэджанне за выкарыстанне незарэгістраванай сімволікі. Абараняючы свае права, «Ратуша» звярнулася ў архіў, пасля - зноў у выканкам. І як вынік - забарона выкарыстання гістарычнай сімволікі.

П.М.

## Эколагі пашкадавалі дэльфінаў

**«Вы ехалі хаця б раз з Крыма ў Гродна? Я - таксама не. Аднак я ехаў з Зарыцы паўнюткім летнім аўтобусам і магу ўявіць, як пачуваецца дэльфін, якога зачынілі ў цыстэрне па дарозе ў Гродна...»**

Такія ўлёткі атрымлівалі ў суботу дзесяткі ахвотных, што прыйшлі паглядзець у Палац дзіцяча-юнацкай творчасці на разрэкламаваны крымскі дэльфінарый. Акцыю пратэсту «Стоп! Насілле» праводзіла група маладых аднадумцаў, якія назвалі сябе «Гарадзенскай ініцыятывай за правы жывёлаў».

- Мы разумеем, што гэтым дэльфінам ужо нічым не дапаможам. Мы проста хочам давесці людзям, што зарабляць на жывёлах - гэта дрэнна. У людскіх галовах нешта павінна пачаць варушыцца,- зазначае ўдзельнік акцыі Павал Манькоўскі. - Здзеку над жывёламі нельга дапускаць. Хай сабе гэты цырк прыносіць радасць каму заўгодна, але толькі не жывёлам.

Крымскі дэльфінарый прыехаў у Гродна 29 снежня і практычна штодня праводзіць выступленне дэльфінаў. Дзіцячы квіток каштуе 900 рублёў, квіток для дарослых - 1100 рублёў. Мала гэта ці многа, але аншлаг на імпрэзе - амаль заўсёды. Таму і на акцыю пратэсту кіраўніцтва дэльфінарыя, у асобе Ніны Макарчук, адрэагавала спакойна. «Гэта не пратэст, а так, немаведама што. Мне, можа, не падабаюцца вашыя дарогі, дык што, я пайду пад гарвыканкам і буду пратэставаць?.. Пратэставаць могуць людзі, якія проста не цікавяцца жывёламі. І хутчэй за ўсё з-за сваёй непісьменнасці... У дэльфінаў выдатныя ўмовы ўтрымання. І ад гарадзенцаў мы чуем толькі словы падзякі...»

Дарэчы, гарадзенцы, якіх сапраўды хвалюе лёс жывёлаў, напросту патрапілі ў пастку дабрыні бабуляў і дзядуляў. Вось дыялог з жанчынай, якая прыйшла на імпрэзу з маленькім сынам:

- Вы лічыце, што прымушаць дэльфінаў выступаць для людзей - гэта добра?

- Не, што Вы, жахлівае відовішча! Бедныя дэльфіны жыватом па кафлі катаюцца. Там такі непрыемны пах!

- А чаму Вы, у такім выпадку, ідзяце на выступленне?

- Я наогул была супраць, але бабуля купіла нам з сынам квіткі. Шкада дзвюх тысячаў.

«...Ап! - гаворыць дрэсіроўшчык, - і дэльфін выскоквае з вады. Не верце словам цыркачоў, гэта не надае яму радасці і задавальнення. Ён робіць гэта аўтаматычна. У дзяцінстве чалавек (гэты гаспадар прыроды) зламіў ягоную волю ды інстынкт. Хопіць жорсткасці ў нашым жыцці!..»

Іван Паўлёнак

# Ляпсусы прэзідэнцкай улады альбо што ж ўсё-ткі вывальваецца з экрана «БТ»

### 1. Пра людзей і незалежны друк

З выступлення прэзідэнта па «БТ» у Гродне:» И никаких обид, накачек, - надо бережно относиться к людям...» і далей... «Вот тут мне подсовывают (?) одну «жёлтую» газетёнку» ... і прэзідэнта, як заўсёды, панесла ў хамства. Бо газета тая была незалежная, (не ручная), дарэчы, з вялікай колькасцю чытачоў (ды пры чым тут колькасць?). Дзе гэтае «бережное отношение к людям?» Адно супакойвае «прыхільнікаў незалежнай прэсы»: не такое яно і брыдкае гэтае слова «жёлтая» прэса. Памятаеце, у былыя часы (Ат, чаго там цямніць, і зараз у афіцыйных СМІ ды такога ж «БТ») «жёлтой прессой» называлі і называюць усе дэмакратычныя СМІ Захаду. І што з таго? Дзе зараз яны ў пытаннях дэмакратыі, свабоды слова і г.д. і дзе мы?

### 2. Прэзідэнт пра ўладу

Цытую: «у нас власть валялась под ногами и нужно было её поднять...» Можа, яно і так, Аляксандр Рыгоравіч - але ж, Вы яе паднялі за горла мёртвай хваткай. Ці не з гэтай прычыны яна зноў апынулася ў нас пад нагамі? Вы разумееце? Гэта я пра дэмакратычную ўладу. І вось Вам вынік, Аляксандр Рыгоравіч - далей Вы сцвярджаеце, цытую...«законов не хватает - поэтому я вынужден издавать указы от себя» - гэткая, здаецца, невялічкая, а усё ж «отсебятинка». Таму што парламент, які павінен быў забяспечыць Вам «хватку» законаў, Вы разагналі (памятаеце?), а ўказы «от себя», Аляксандр Рыгоравіч, «издают» якраз «для себя». Дарэчы, у 1994 годзе Вы гаварылі, што ў Вас «царские полномочия». Дык якіх жа законаў Вам, Аляксандр Рыгоравіч, не хапае? Мо ўсё ж такі Божых? Я маю на ўвазе, жыць паводле Закона Божага.

### 3. Прэзідэнт «О жулье»

Зноў «БТ» і Ваша цытата: «Наехали на биатлониста Сашурина - и тогда я сказал их главному бандиту - Сашурина не трогать!» Мне цікава, дзе адбылася Ваша сустрэча з «главным бандитом» (ці не ў Драздах, часам?), у якой якасці Вы з ім размаўлялі і як ягонае прозвішча?

****

Крыху пазней Вы, Аляксандр Рыгоравіч, па «БТ» на ўсю Беларусь на адной з нарадаў такое выгаворвaеце сваім падначаленым! (Дарэчы так натхнёна, што я нават не паспяваю запісваць). Цытую: «Виноватые не просто уйдут в отставку, но с успехом заменят жульё...» Калі «с успехом заменят жульё», то лагічна меркаваць, што яно і ў кіраўніцтве. І калі «заменят», дык «куда уйдёт то жульё», якое яны (ну, гэтыя Вашыя) «заменят». Няўжо ж... Далібог, цур мяне.

Ну і апошняе «жульё» Вы дзеўбанулі ў Расейскай Думе. Цытую: «Хватит стоять на коленях перед этим жульём из МВФ». Цікава, на чым тады стаім мы перад Расеяй (хіба на жываце), калі просім падачкі ў яе, якая стаіць на каленях перад «жульём из МВФ». Я лічу, Аляксандр Рыгоравіч, лепей перад багатым укленчыць, чым перад «нищим» поўзаць на жываце. Ды і логікі аніякай, адно толькі ногі будуць выціраць ды і выспятка ў адно месца можна атрымаць, самі ж ведаеце - «Умом Россию не понять!»

### 4. Прэзідэнт ды іншыя пра дэмакратыю

«Чарнобыльскі шлях» (зноў жа «БТ»), прэзідэнт з цытатай... «Президент, он и в Африке президент и должен действовать жёстко!» Аляксандр Рыгоравіч, што за крайнасці? Можа, лепей - «Президент он и во Франции президент и будет действовать мудро.» (Той жа дэ Голь).

А вось у міністра УС Сівакова любімая прымаўка - «Мы государевы люди». Гэта нагадвае мне нядаўняе выступленне па «БТ» «беларускіх казакоў» з іх дэвізам «За царя и Отечество». Што ім Каліноўскі, Касцюшка, Астрожскі, Сапега? А як жа тады Сувораў, Мураўёў, Цанава і г.д.? Пры чым тут Беларусь? Гэта ж гатовае рэтра РНЕ.

У іншым выступленні Сівакоў сцвярджае перад пачаткам дэманстрацыі: «Я отвечаю за всё перед Богом и белорусским народом». Канешне, гэта былі для яго пустыя словы. Ён як быў, так і застаўся «государевым человеком» і адказвае толькі перад сваім «государем». Дарма, што гэты народ іх корміць, абувае, дае жыллё, - збілі, разагналі, пасаджалі. Я лічу, да пары, да часу.

Абсалютна дакладна выказаўся «вываливший кастрат» Зімоўскі пра апазіцыю: «У них настоящих буйных мало - вот и нету вожака». Правільна! Сапраўдныя «буйныя» сярод зімоўскіх, «там и вожак». Куды яму падзецца ад «буйных»?

### 5. Прэзідэнт пра эканоміку

Нядаўна Аляксандр Рыгоравіч сказаў: «Наш экономический состав идёт «юзом» (відавочнае параўнанне эканомікі з цягніком). Дарэчы, але ж «юзом» - гэта пад адхон, г.зн. уніз пры нейкім тармажэнні, на вялікай хуткасці і на раўніне. Ды і прэзідэнт увесь час гаворыць пра уздым эканомікі, як і «юз». Уверх - гэта прабуксоўка, ды і то, калі цягнік перагружаны. Ага, урэшце, я, здаецца, здагадаўся: наш цягнік эканомікі, відаць, усё ж едзе «юзам» - толькі назад з невялікай горкі, перагружаны інфляцыйнымі «зайцамі».

****

А вось і паслявыбарчае абяцанне прэзідэнта: «Беларускі народ будзе жыць бедна - але нядоўга...» Не ведаю, пяць з паловай гадоў, гэта доўга, ці ўсё ж бедна? Так хочацца пачуць з вуснаў прэзідэнта: «Беларускі народ будзе жыць доўга і бязбедна!»

****

Дык не, 7 снежня 1999 года Аляксандр Рыгоравіч сказаў (цытую): «Хотите лучше жить - надо больше работать» (крылаты саўковы выраз часоў застою 20 гадоў таму). І гэтая рэклама «Чарка і шкварка - жывіце ў радасць» неяк не вельмі добра ўспрымаецца страўнікамі гледачоў - па наш бок экрану. Лепей глядзіцца рэклама пра бяздомных сабак, так шкада іх, неразумных. Потым падумаеш пра нас - беларусаў, трошкі супакоішся за сабак. Бо і ў нас - дзе зараз дом, дзе розум? І слёзы на вачах ад той дзяўчынкі з вялікімі васількoвымі (чамусьці самотнымі) вачыма і вяночкам з кветак на бялявай галоўцы, а тая дзяўчынка ўсё далей і далей... Аддаляецца ад нас насустрач зялёнаму волату-дрэву, насустрач вясёлцы. Няўжо гэта адзінае, што застанецца напамінам пра Беларусь!? Шчаслівай дарогі і лепшай долі табе, дзяўчынка...

З прывітаннем,
Лапушэнка

P.S. Што вывальваецца з экрана «БТ», я думаю, вы зразумелі. Вось тое, што ў цытатах напісана, тое і вывальваецца. Гэта яшчэ кветкі (тут ляпсусы самых з самых). Ягадкі - калі паглядзіце «Рэзананс» альбо яшчэ якую тэлебеллухту. Вось там, напраўду, такое «вывальваецца»! Мая парада - на такой лухце «зашпільваць шырынку «БТ».




# БНФ падтрымлівае пратэст прадпрымальнікаў

**Першага лютага пачаўся агульнанацыянальны страйк прадпрымальнікаў. Гэтая акцыя стала вынікам палітыкі на вынішчэньне малога бізнэсу, якую праводзіць сёньняшні рэжым.**

БНФ падтрымлівае беларускіх прадпрымальнікаў у іхнай справядлівай барацьбе. «Мы лічым, што прадстаўнікі малога бізнэсу давездзеныя да апошняй мяжы», - сказаў Вячаслаў Сіўчык, намесьнік старшыні БНФ. Страйк ёсьць адзіным рэальным шляхам уплыву на сытуацыю, бо ўсе астатнія магчымасьці ўжо вычарпаныя.

БНФ «Адраджэньне» зычыць беларускім прадпрымальнікам мужнасьці й рашучасьці ў іхнай справе, а таксама - салідарнасьці з іншымі групамі насельніцтва, бо толькі супольнымі намаганьнямі можна зьмяніць сытуацыю ў грамадзтве і абараніць незалежнасьць нашай краіны.

**Алесь Мікуліч**

# Вінцук Вячорка падзяліўся досведам з гарадзенцамі

**У нядзелю, 30 студзеня, старшыня Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» Вінцук Вячорка сустрэўся з гарадзенскімі актывістамі і прыхільнікамі гэтага грамадскага руху. Абмен думкамі адбыўся ў штабкватэры гарадской арганізацыі БНФ.**

Гэта першы прыезд у Гродна новага лідара БНФ у якасці старшыні ўплывовага руху. Вінцук Вячорка выказаў сваё бачанне сацыяльна-палітычнага стану ў Беларусі. Сітуацыя для дэмакратычных сілаў трывожная, адзначыў госць. Найперш, адбылася амаль што поўная здача нашай краіны расейскім алігархам. Аляксандр Лукашэнка трапіў у пастку, якую сам старанна рыхтаваў для крамлёўскіх састарэлых верхаводаў. З прыходам Уладзіміра Пуціна выразна бачацца імперскія памкненні Масквы. Беларускаму нелегітымнаму лідару адведзена роля маўклівага назіральніка. Цяпер ён можа толькі пагаджацца з усім, што яму загадаюць новыя правіцелі Расеі. Мары пра Крэмль канчаткова пахаваныя. Прынамсі, на бліжэйшыя чатыры-восем гадоў.

**У гэтых умовах павінна** змяніцца тактыка дзейнасці БНФ «Адраджэньне». Неабходна ўлічваць, што 59 адсоткаў жыхарства Беларусі выказваюцца за добрасуседскія адносіны з Расеяй, але пры ўмове незалежнасці і самастойнасці радзімы. Гэтыя настроі штодня мацнеюць. Калі так званы саюз не дасць вынікаў у бліжэйшы час, то згаладнелы беларускі люд яшчэ больш павернецца ў бок апазіцыі. 70-80 працэнтаў дробных і сярэдніх прадпрымальнікаў гатовы актыўна ўдзельнічаць у акцыях пратэсту супраць уласнага абрабавання з боку дзяржавы. Структуры БНФ на месцах павінны адсочваць такія настроі, падтрымліваць памкненні дзелавых людзей.

Адказваючы на пытанне наконт удзелу апазіцыйных сіл у маючых адбыцца выбарах, Вінцук Вячорка выказаў агульнае стаўленне да гэтай праблемы аб'яднанай кааліцыі. Хутчэй за ўсё, вылучэння кандыдатаў у дэпутаты не будзе. Але не паўсюдна. Кааліцыйны звяз вельмі нетрывалы. Перамовы аб доступе апазіцыйных сілаў да СМІ спынены па віне ўладных структураў. Не будзе прадстаўлена апазіцыя і ў якасці назіральнікаў. Але час уносіць папраўкі.

Лідар БНФ «Адраджэньне» прааналізаваў сённяшні стан паразумення розных партый Беларусі, якія ўваходзяць у Каардынацыйную дэмакратычную раду (партыя БНФ цяпер там старшынствуе) і ў Кансультацыйную раду. Апошняя вядзе перамоўны працэс з «вертыкаллю». Добрую падтрымку працэсу дэмакратызацыі на Беларусі аказвае Асамблея няўрадавых арганізацыяў, якая налічвае 700 беларускіх аб'яднанняў самага рознага накірунку.

БНФ «Адраджэньне» рыхтуецца да ўдзелу ў вясновых акцыях пратэсту. Ужо ў лютым свае мерапрыемствы правядуць Малады Фронт і ўдзельнікі афганскай вайны. У сакавіку адбудзецца «Марш Свабоды-2». 25 сакавіка Беларускі Народны Фронт маркуе шырока адзначыць чарговыя ўгодкі стварэння БНР.

Вінцук Вячорка выказаў сваё стаўленне да работы структураў БНФ «Адраджэньне» з вяскоўцамі. Гэта пакуль што неўзаранае поле. Але ёсць пэўныя напрацоўкі, якія могуць зрушыць справу з мёртвага пункту. У прыватнасці, перадачы радыёпраграмаў «Рацыя» (Беласток) і «Балтыйскія хвалі» (Вільня). Вельмі ўспрымальныя да дэмакратычных зрухаў жыхары малых і сярэдніх гарадоў краіны. Пра гэта **сведчаць сацыялагічныя** даследаванні.

Да арыгінальных можна аднесці пытанне накшталт таго, на якія сродкі жыве за мяжой Зянон Пазьняк. Вінцук Вячорка патлумачыў, што вядомага дзеяча беларускай апазіцыі падтрымліваюць сродкамі амерыканскія беларусы, ёсць пэўныя грантадаўцы, якія, напрыклад, дапамагаюць выдаваць часопіс «Беларускія ведамасці», рэдактарам якога з'яўляецца спадар Пазьняк...

Пры гэтым, здаецца, Вінцук Вячорка зусім не супраць бачыць сярод прыхільнікаў БНФ «Адраджэньне» людзей з кансерватыўнымі поглядамі, нароўні з найбольш радыкальнымі сацыял-дэмакратамі (блізкімі па пераканаваннях да польскай «Салідарнасці»). Але Кансерватыўна-хрысціянская партыя Беларускага Народнага Фронту на чале з тым жа Зянонам Пазьняком таксама імкнецца займець у сваіх шэрагах тых, хто не знайшоў сябе ў іншых партыях і рухах.

Высокую ацэнку з вуснаў старшыні БНФ «Адраджэньне» атрымала дзейнасць Маладога Фронту. Шкада, што Вінцук Вячорка не паспеў прачытаць у тыднёвіку «Наша Ніва» інтэрв'ю з былым актывістам МФ, вязнем сумлення Вадзімам Лабковічам. Па-рознаму ставяцца гэтыя вядомыя людзі да фронтаўскага моладзевага руху.

Што да бліжэйшых планаў, то спадар Вячорка разам з рэдактарам газеты «Рабочий» Віктарам Івашкевічам запрошаны ў Вялікабрытанію. Партыйныя стасункі наладжваюцца з еўрапейскімі цэнтрысцкімі і правацэнтрысцкімі партыямі.

**Сцяпан Ярашчук**

# «Сяляне» прыйшлі ў Фронт

**Яўген Лугін заявіў пра далучэньне Сялянскай партыі да БНФ «Адраджэньне» ў якасьці фракцыі.**

Кіраўніцтва БНФ заяўляе, што інтарэсы Сялянскай партыі будуць улічаныя, а досьвед запатрабаваны ў дзейнасьці шырокага руху БНФ «Адраджэньне».

**Ул. інф.**

# А і В сядзелі на трубе

**Эпідэмія грыпу да Беларусі яшчэ не дайшла. Паводле звестак абласной санітарна-эпідэміялагічнай станцыі, перавышэнне эпідэміялагічнага парогу ў двух кантрольных гарадах - Гродне і Лідзе - яшчэ не надышло.**

Мяркуецца, што вірус «дастане» нас праз тыдзень-два, а пік прыпадзе на апошнія дні лютага - пачатак сакавіка. Адпаведна прагнозам нашых медыкаў, грып будзе, як і ў мінулыя некалькі гадоў, двух тыпаў - А і В. Як сцвярджае галоўны эпідэміёлаг абласной СЭС Яўген Ліхота, «дадзены вірус цыркулюе па нашай краіне ўвесь час і не з'яўляецца нечым новым». Грып тыпаў А і В атрымаў назву «сіднэйскі» па месцы яго адкрыцця - упершыню ён быў зарэгістраваны ў Сіднэі ў 1997 годзе.

Зараз паліклінікі Гродна рэгіструюць 500-550 выпадкаў ВРВІ (вострай рэспіраторнай віруснай інфекцыі) і грыпу ў тыдзень. Сёлетняя эпідэмія, мяркуючы па ўсім, будзе позняй і працягнецца месяцы два. У 1999 годзе пра пачатак эпідэміі было афіцыйна аб'яўлена другога лютага. Пры павелічэнні колькасці хворых да 250 чалавек у дзень на працягу трох дзён у горадзе будзе аб'яўлена афіцыйная вайна з грыпам: медычныя ўстановы будуць пераведзены на 6-дзённы працоўны тыдзень, узмоцнены кантроль у сістэме грамадскага харчавання, дзіцячых і гандлёвых установах.

## Як адразу пазнаць заразу?

Працякае грып вельмі цяжка, а хвароба прагрэсуе катастрафічна хутка - яшчэ раніцай Вы адчуваеце сябе выдатна, а ўжо ўвечары з ног валіць тэмпература пад 39 С, пачынаецца святлабоязь (слязяцца вочы), пашчыпванне ў насаглотцы, галаўны боль і ламота ў касцях. На трэці-чацвёрты дзень могуць пачацца грыпозныя ўскладненні і кашаль (бранхіт, трахеіт), боль у розных частках цела - то тут, то там. Часцей за ўсё хварэюць хронікі - ныркі, сэрца, косці.

Таму вельмі важна весці масіраваную супрацьгрыпозную атаку ў першыя ж гадзіны.

Ёсць больш мірны варыянт працякання хваробы: цяжар у галаве і целе, санлівасць і млявасць, раздражняльнасць. Аднак нават калі гарачка паводзіць сябе не надта агрэсіўна, нельга забывацца на магчымасць ускладненняў. Паводле статыстыкі, 60 працэнтаў ускладненняў - гэта паражэнні лёгкіх, 30 працэнтаў - сэрца, апошнія 10 працэнтаў - астатніх органаў.

## Што раяць медыкі?

Як сказаў тэрапеўт адной з гарадскіх паліклінікаў, «ад грыпу яшчэ ніхто не памёр, усе беды - ад ускладненняў».

Нягледзячы на тое, што вірус грыпу - адзін з найстаражытнейшых, 100-працэнтных лекаў ад яго так і не вынайшлі. Грып, як прусак, увесь час відазмяняецца і прыстасоўваецца да ўсяго. Дактары сцвярджаюць, што знішчыць вірус грыпу немагчыма. Што ж тады рабіць?

Памятайце, што на барацьбу з грыпам Вы маеце лічаныя гадзіны. Пастарайцеся, калі прыходзіце дахаты з працы, узяць за звычку піць не чорную гарбату, а процігрыпозную (галінкі маліны, святаяннік (зверабой), рамонак аптэчны, плады шыпшыны, мёд - гатавацъ пасля кіпення адну хвіліну і 10 хвілінаў настойваць). Давядзецца есці па два-тры зубкі часнаку ўдзень. Адпраўляючы дзяцей у школу і садок, памажце ім насы (і сабе заадно) аксалінавай маззю. Ну і не забывайцеся на іншыя народныя рэцэпты - лазню, хрэн са смятанай, свежае паветра.

Як гэта не дзіўна, але антыбіётыкамі грып лячыць нельга (антыбіётыкі спатрэбяцца пазней, пры інфекцыйных ускладненнях). Таму трэба звярнуць увагу на антыгрыпозныя прэпараты.

Рэмантадзін (ужывайце пры прафілактыцы грыпу ў дарослых, а таксама дзяцей старэй сямі гадоў) - ёсць у аптэках N3, N147, N119; кошт - 1 300 000 недэнамінаваных беларускіх рублёў.

Дзібазол (непажадана для дзяцей і гіпатонікаў, астатнім жа выдатна дапаможа) - можна набыць у аптэцы N159, кошт - 71 000 недэнамінаваных беларускіх рублёў.

Антыгрыпакапс - ёсць у аптэках, кошт - 197 000 недэнамінаваных беларускіх рублёў.

Вітаміны - Тэравіт, Вітус за 1,5-3 мільёны недэнамінаваных беларускіх рублёў; айчынных і танных вітамінаў няма.

**Алена Сіневіч**

# Метад Астапа Бэндэра ў дзеянні

**Як усім вядома, сутнасць гэтага метаду ў наступным: спачатку ты плоціш грошы, а толькі потым табе аказваюць паслугу. Ім і стала карыстацца пашпартна-візавая служба, што ўваходзіць у МУС РБ.**

Калі раней грамадзянін РБ аплочваў паслугі гэтаму ведамству за зробленыя пашпарт ці адкрыцце візы, то зараз (адпаведна цыркуляру, што нядаўна паступіў), выплаты павінны будуць здзейснены да здачы дакументаў на афармленне пашпарта ці візы. Саму ж працу пашпартна-візавая служба выконвае на працягу аднаго-двух месяцаў, і гэта пры ўмове, калі ёсць бланкі.

# Куды ні кінь - усюды клін

**У такім стане апынуліся кіраўнікі калгасаў і саўгасаў ды некаторых дробных гаспадарак на Беларусі, што маюць аўтатранспарт, пасля ўвядзення ў мінулым годзе абавязковага страхавання аўтатэхнікі.**

Шмат у каго не хапіла грошай, каб правесці страхаванне, таму яны проста не выканалі гэтых патрабаванняў, за што і былі пакараныя дзяржаўтаінспекцыяй. Прыкладам, адно толькі Мастоўскае аддзяленне ДАІ РАУС за мінулы год спагнала прамых штрафаў з удзельнікаў дарожнага руху на суму 2 580 301 000 недэнамінаваных рублёў.

**М.Падгайны**

# Штрых-код на ўсе беларускія тавары?

**У пачатку другога тыдня лютага 2000 года ва ўрадавых колах плануецца разгледзець пытанне наконт ўвядзення абавязковага штрыхавога кадзіравання ў Беларусі на пэўныя віды тавараў.**

Па сваёй сутнасці, штрых-код - гэта насыбіт інфармацыі пра тавар: дзяржава, у якой выраблены тавар; прадпрыемства-вытворца; якасныя асаблівасці і, у большасці выпадкаў, кошт тавару. Без штрых-кода фактычна немагчыма экспартаваць тавар. Прычым, не толькі ў дзяржавы Заходняй Еўропы, але і ў шматлікія краіны Садружнасці Незалежных Дзяржаваў. Так, ужо больш за год, як падобная канталёўка абмежаванні прыняла Украіна, нашмат раней - Масква, Санкт-Пецярбург (болей за палову суб'ектаў Расейскай Федэрацыі).

Безумоўна, увядзенне абавязковага штрыхавога кадзіравання ў Беларусі наспела ўжо даўно. І справа тут не толькі ў магчымасці экспарту тавару, але і ў набліжэнні да сусветных стандартаў. Сістэма штрыхавога кадзіравання тавараў у Беларусі забяспечыць максімальную аўтаматызацыю працы чалавека. У развітых краінах, напрыклад, сучасныя цэхі прадпрыемстваў і складоў часцяком уяўляюць сабою цалкам бязлюдныя памяшканні, дзе ўвесь час пераматываецца велізарная колькасць упаковак тавару. З дапамогай штрых-кодаў тэхніка надзейна кантралюе ўсю гэтую працэдуру. Таксама пасля ўвядзення абавязковага штрыхавога кадзіравання ў Беларусі (хаця б на большасць тавараў) ў магазінах з'явіцца сучасная апаратура счытвання штрых-кодаў. Гэта дазволіць у некалькі разоў спрасціць усю складанасць «наведвання» нашых стацыянарных гандлёвых пунктаў, зменшыць колькасць работнікаў у магазіне.

І апошняе. Сёння ў свеце дзейнічае адзіная уніфікаваная сістэма штрыхавога кадзіравання тавараў, якая атрымала назву EAN-VCC Global Language of Business (сумесная амерыкана-канадская і еўрапейская сістэма). Паводле правілаў EAN International, яе прадстаўніцтва ў любой еўрапейскай дзяржаве павінна адпавядаць статусу няўрадавай таварнай арганізацыі. У нашай рэспубліцы працуе Асацыяцыя таварнай нумарацыі EAN Беларусі, якая на падставе ліцэнзійнага пагаднення прадстаўляе інтарэсы EAN International. Так што, калі ўрад увядзе абавязковае штрыхавое кадзіраванне на пэўныя віды тавараў, то будзе ўжо хоць нейкі падмурак для будучай рэалізацыі адпаведнай пастановы альбо іншага нарматыўна-прававога акта.

**Максім Жмінда**

# Яго творы даюць ратаванне



**Даведаўшыся пра атрыманне літаратурнай прэміі «Трыумф» у галіне літаратуры народным пісьменнікам Беларусі Васілём Быкавым многія гарадзенцы выказваюць вялікае задавальненне.**

Аўтарытэт пісьменніка пацверджаны ўсім яго ранейшым жыццём і творчасцю. Ужо з ягоных твораў 60-х гадоў стала зразумела, што ў літаратуру прыйшоў не проста новы чалавек, прыйшоў творца з праніклівым і ўдумлівым поглядам, які не будзе ствараць чарговыя шматслоўныя дыфірамбы афіцыйным ідэям, а загаворыць з гранічнай праўдзівасцю пра шматпакутны лёс свайго народа. Гэтую думку засведчыў і вядомы рускі пісьменнік В.Астаф'еў: «Творчасць В.Быкава з'явілася адлюстраваннем Вялікай Айчыннай вайны. Ён прымусіў і іншых пісаць лепш, без фальшу. Яго творы раскрывалі сакрэт загадкавай славянскай душы, прычыны нашай перамогі».

Не дзіўна, што і ў замежжы чытача творы Васіля Быкава заваявалі шырокае прызнанне. У 70-я гады В.Быкава называюць самым чытаемым беларускім пісьменнікам у Германіі. У 80-я гады, адпаведна дадзеным UNESKO, В.Быкаў адзін з самых папулярных пісьменнікаў свету. Паводле словаў нямецкага крытыка Г.Плавіуса, «яго слова, знешне нібыта суровае і жорсткае, - гэта слова гуманнага, добрага і мужнага чалавека, які разам са сваім народам выпакутаваў права гаварыць непрыкрытую праўду пра вайну... Сакрэт праніклівасці яго пісьма, думаецца, у прывабнасці самой асобы пісьменніка».

І па сённяшні дзень творы В.Быкава робяць значны ўплыў на сучасны літаратурны працэс і на духоўнае жыццё народа.

У нашым пошуку ісцінага шляху арыенцірам могуць служыць ягоныя творы. Яны, як свежы глыток вады, як прыветны агеньчык, што даюць ратаванне аблудным і зняверaным. Мы перакананыя, што творы Васіля Быкава не толькі з'яўляюцца гонарам нашай нацыі, а знойдуць водгук у душы кожнага, хто жыве па законах дабра і справядлівасці.

**Мікола Мельнікаў, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны**

# Вялікі талент - дарыць сябе людзям. І быць пры гэтым шчаслівым

**У Выставачнай зале Саюза мастакоў адбыўся вернісаж Васіля Мартынчука. Адметная асаблівасць жыццёвага крэда мастака і, як вынік ягоных творчых прынцыпаў - дарыць сябе людзям і быць пры гэтым шчаслівым. І вернісаж гэта пацвердзіў.**

Васіля хвалілі вучні і настаўнікі сярэдняй школы N31, дзе ён вядзе студыю выяўленчага мастацтва. Хвалілі і віншавалі калегі па мастацкаму цэху. У адказ на ўсё гэта Васіль Мартынчук са сваёй заўсёднай па-дзіцячаму шчырай і добрай усмешкай сказаў простыя словы: «У мяне за спіной, здаецца, вырастаюць крыльцы... Я бязмежна шчаслівы сёння».

У экспазіцыі паказаныя жывапіс і кераміка з белай гліны. Адзінае вызначэнне, якое прыдатнае і да карцінаў, і да скульптураў - гэта выяўленне жыццярадаснай сілы як стыхіі. Аўтар дае поўную свабоду творчым сокам, што ўвесь час у ім бурляць. «Я ніколі не ведаю, калі працую над нейкім творам, што ў мяне атрымаецца. І бывае, сам дзіўлюся выніку,» - прызнаецца аўтар. Сапраўды, у дзіўных карцінах Мартынчука трэба добра пакорпацца, каб даведацца, што ж там такое. Ды і сам мастак не імкнецца дакладна вызначыць змест сваіх жывапісных работаў, больш падобных на касмаганічныя містэрыі. Розныя сімвалы, намёкі, напэўныя абрысы, утвораныя моцнымі нястрыманымі яркімі мазкамі, нібы вяртаюць да дзікіх часоў неаліту, калі першыя мастакі спрабавалі свае пэндзлі ў наскальным жывапісу.

Васіль Мартынчук не кідае свайго прынцыпу ігнаравання рацыяналізму ў мастацтве на карысць вітальнай сіле прыроды і ў керамічных работах. Натуральны матэрыял - шамот - дыктуе натуральную форму. Нават вазы і вытанчаныя абрысы скульптураў з гліны не засланяюць немудрагелістасці формаў. Некаторыя з іх настолькі натуральныя, што здалёк сыйдуць за абломкі белых шурпатых валуноў, зарослых травой і кветкамі. Цікавым адкрыццём майстра стала скарыстанне старажытнай тэхналогіі беларускіх майстроў па абварной кераміцы. Такое аздабленне гліняных вырабаў сустракалася толькі ў Беларусі ў XVIII-XIX стагоддзях.

**Алена Сіневіч**

# А ўвесну зубы на паліцу?

**У 1999 годзе Гарадзенская вобласць недаатрымала 30 тысяч тон малака ў параўнанні з папярэднім 1998 годам. Недалічылася таксама звыш 20 тысяч тон мяса жывёлы і птушкі. У вытворчасці мяса толькі Бераставіцкі раён справіўся з даведзенымі паказчыкамі. Надоі малака ўдалося павысіць у трох раёнах вобласці.**

Грамадскі статак зменшыўся за год у 10 раёнах на 2,5 тысячы галавы. Асабліва пацярпелі гаспадаркі Ашмянскага, Астравецкага і Слонімскага раёнаў. Усяго па вобласці пагалоўе скарацілася на 33 тысячы галоў буйной рагатай жывёлы, на 7,7 тысячы - свіней. Прыплод цялятаў знізіўся на 3,4 тысячы. У 101 гаспадарцы вобласці нарыхтавана меней за палову ад неабходнай колькасці кармоў.

50 жывёлагадоўчых комплексаў патрабуюць неадкладнай рэканструкцыі. Для гэтага трэба знайсці 1,5 трыльёна недэнамінаваных рублёў капіталаўкладанняў.

**Уладзімір Кавалёў**

# Прадпрымальнікі заклікалі Лукашэнку «спыніць генацыд» і пайсці ў адстаўку

**Каля 2 тысяч чалавек узялі ўдзел у мітынгу ў абарону эканамічных і іншых правоў грамадзян, які прайшоў 31 студзеня ў раёне менскай плошчы Бангалор. Ён быў прымеркаваны да пачатку ўсеагульнай забастоўкі прыватных прадпрымальнікаў, якія гандлююць на рэчавых рынках рэспублікі. Ініцыятарамі мітынгу выступілі страйкам прадпрымальнікаў Беларусі, Свабодны прафсаюз беларускі і Беларуская арганізацыя працоўных жанчын.**

Акцыя прайшла пад лозунгамі «Прыватная ўласнасць недатыкальная!», «Спыніць грабеж прадпрымальнікаў!», «Не — галечы!», «Мы — людзі, а не быдла!» Прадстаўнікі прафсаюзаў прадпрымальнікаў рэчавых рынкаў рэспублікі канстатавалі рэзкае пагаршэнне ўмоў работы прыватных прадпрымальнікаў і рэзка крытыкавалі палітыку ўладаў у адносінах да малога бізнесу. Прамоўцы заклікалі прысутных да згуртавання і пазбаўлення ад «мястэчковасці». Гэта, паводле іх словаў, стане свайго роду пакараннем за ранейшую абыякавасць прадпрымальнікаў да гвалтоўных дзеянняў уладаў у дачыненні да іншых катэгорый насельніцтва і акцый пратэсту апазіцыі.

Выступаючы на мітынгу, былы прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір заявіў, што дзяржава праводзіць мэтанакіраваную палітыку знішчэння беларускага прадпрымальніцтва. «На пачатковым этапе прэзідэнт і ўрад вялі барацьбу супраць буйных прадпрымальнікаў, — сказаў М.Чыгір. — У рэшце рэшт іх выжылі з Беларусі. У выхадныя дні цягнік «Мінск — Масква» цалкам загружаны былымі беларускімі бізнесменамі, якія сёння пасяхова працуюць у Маскве і плацяць падаткі ў расійскую казну. Потым прыйшла чарга сярэдняга і дробнага бізнесу. Наша дзяржава — гэты адзін буйны калгас. А ў калгасе ўсе павінны строем хадзіць на працу».



Прадпрымальнікі сёння вымушаныя больш мітынгаваць, чым гандляваць

Удзельнікі мітынгу прынялі рэзалюцыю, дзе, у прыватнасці, запатрабавалі: — адмяніць падатак на дабаўленую вартасць для прадпрымальнікаў і арганізацый з месячным тавараабаротам да 3 тысяч мінімальных зарплат (МЗП); — адмяніць 10-разовае павышэнне адміністрацыйных штрафаў за дробныя парушэнні; — забяспечыць доступ прадстаўнікоў свабодных прафсаюзаў да дзяржаўных СМІ; — павялічыць мінімальную зарплату і пенсію да 80 даляраў ЗША, дапамогі на дзяцей — да 40 даляраў ЗША; — накіраваць у адстаўку міністра прадпрымальніцтва і інвестыцый А.Сазонава і старшыню Дзяржаўнага падатковага камітэта М.Дзямчука «у сувязі з поўнай службовай неадпаведнасцю». Акрамя таго, прадпрымальнікі заклікалі А.Лукашэнку «спыніць генацыд уласнага народа» і пайсці ў адстаўку.

**Дзмітрый Уласаў**

# Курсу загадана стабілізавацца?

**Нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь другі раз з пачатку 2000 года падвысіў базавую планку рэфінансавання. Гэтым разам са 130 да 150 працэнтаў гадавых.**

Раз падвышаецца стаўка рэфінансавання, падвышаецца і цана грашовых рэсурсаў у нацыянальнай валюце, па якой камерцыйныя банкі могуць купіць беларускія рублі ў Нацыянальнага банка. 150 працэнтаў гадавых - гэта яшчэ не мяжа. На наш погляд, сённяшнія тэмпы інфляцыі і абясцэньвання нацыянальнай грашовай адзінкі «прымусяць» Нацыянальны банк пайсці і на далейшае падвышэнне стаўкі рэфінансавання. Паводле меркаванняў спецыялістаў, зараз аптымальная ў Беларусі стаўка рэфінансавання была б 220 працэнтаў гадавых, з наступным 10-працэнтным зніжэннем штомесяц да канца года (але не ніжэй за 130 працэнтаў гадавых да канца 2000 года).

Паверыць у беларускі рубль нашым грамадзянам мо дапаможа павелічэнне працэнтных ставак у беларускіх рублях па ўкладах у камерцыйных банках. Яны павінны дасягнуць адзнакі ў 150 працэнтаў гадавых. Хаця ўжо зараз у «Белпрамбудбанку», «Белаграпрамбанку», у банку «Залаты Талер», у ААБ «Беларусбанк» ды іншых банках Беларусі стаўка вагаюцца ў межах 120-135 працэнтаў гадавых. Але будуць яшчэ вышэй...

Падвышэнне стаўкі рэфінансавання, «кантроль» за наяўнай і безнаяўнай эмісіяй, застойны па продажах для камерцыйных структураў студзень - усё гэта паўплывала на стабілізацыю беларускага рубля да даляра ЗША. А ў дачыненні да нямецкай маркі, французскага франка, італьянскай ліры, галандскага гульдэна ды іншых валют у зоне еўра паўплывала нават на замацаванне беларускага рубля.

На мінулым тыдні была наступная сітуацыя з набыццём даляра ЗША і нямецкай маркі ў Гродне і ў Менску (**гл. табліцу**).

У выхадныя дні курсы беларускага рубля ў дачыненні да даляра ЗША, нямецкай маркі і расейскага рубля фактычна зраўняліся з курсамі рынкава-наяўнымі. На наш погляд, бліжэйшымі днямі сітуацыя карэнным чынам не зменіцца.

**Кацярына Зволін**

P.S. У сераду, 2 лютага, упершыню за апошнія 10-годдзе вартасць даляра на сусветных рынках перавысіла 2 DM (2,0103). Курс нацыянальнай грашовай адзінкі ЗША ў дачыненні да еўра наогул наблізіўся да адзнакі $0,955 за еўра. Такім чынам, вымалёўваецца будучы прыярытэт даляра на еўрапейскіх і нееўрапейскіх фінансавых рынках. Нават пасля ўвядзення наяўнага еўра ў бліжэйшыя паўтара года.

| Дата | Гродна | | | | Менск | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | $/БРБ | | DM/БРБ | | $/БРБ | | DM/БРБ | |
| 27 студзеня | 875 | 900 | 450 | 460 | 875 | 895 | 450 | 460 |
| 28 студзеня | 875 | 890 | 450 | 460 | 875 | 890 | 450 | 460 |
| 29 студзеня | 870 | 885 | 440 | 455 | 870 | 880 | 445 | 460 |
| 30 студзеня | 865 | 880 | 440 | 450 | 870 | 885 | 435 | 450 |
| 31 студзеня | 865 | 880 | 440 | 450 | 880 | 890 | 440 | 445 |
| 1 лютага | 870 | 880 | 440 | 445 | 870 | 880 | 440 | 445 |
| 2 лютага | 875 | 885 | 435 | 345 | 875 | 885 | 437 | 443 |

# Выплацім валюту па курсу Нацбанка...

**Менавіта такім чынам тлумачыцца прэзідэнцкае рашэнне аб гарантыі вяртання валютных укладаў у памеры да 2000 даляраў.**

На сённяшні дзень сума ўкладаў насельніцтва ў банк-банкрут «Пошук» складае 10 мільёнаў даляраў ЗША. 80 працэнтаў укладчыкаў запатрабавалі вярнуць ім сродкі, прычым у валюце.

Вядома, такіх сродкаў у банка, які пацярпеў крах, на сённяшні дзень няма. Тым не менш (!) падрыхтаваны план, паводле якога новае кіраўніцтва спадзяецца на працягу пэўнага часу разлічыцца са сваімі ўкладчыкамі.

У прыватнасці, распрацаваная «Пошукам» і Нацыянальным банкам праграма прадугледжвае наступную рэструктурызацыю. Для ўкладчыкаў, чые ўклады складаюць суму ў межах 500 даляраў, прапануюцца такія ўмовы: аднамомантная выплата 10 працэнтаў сумы запазычанасці банка ў валюце ўкладаў; пераафармленне астатняй сумы на тры месяцы; выплата гэтай сумы пасля заканчэння ўказанага тэрміну; налічэнне і права атрымання працэнтаў укладу ў рублёвым эквіваленце па курсу Нацыянальнага банка штомесяц... Сёння гэта прыблізна 360 дэнамінаваных беларускіх рублёў за даляр ЗША... (у 2,5 разы меней за рынкавы курс).

Тэрмін рэструктурызацыі для астатніх укладаў наступны: паўтара, два і тры гады...

А што рабіць укладчыкам «Пошука», чые ўклады (дэпазіты) складаюць больш як 2 000 даляраў ЗША? Ды і ці дойдзе да іх чарга? Мы сумняваемся.

**Кацярына Зволін**

# Хлеб ты наш надзённы... Дзе ты?

**У друку з'явіліся паведамленні, што ў вяснова-летні перыяд будуць вялікія праблемы з бензінам. А можа, і на ўвесь сельскагаспадарчы год аўтааматару наканавана, праклінаючы дзяржаву і яе бесталковых кіраўнікоў, стаяць у даўжэзных чэргах ці аплочваць чаканыя літры амерыканскімі далярамі, якімі, дарэчы, нам пакуль ніхто заробак не выдае. Ідзе мэтанакіраванае назапашванне паліва для пасяўной. Значыць, пачынаецца чарговы раўнд зацятай барацьбы за ўраджай. А хлеб, ён усяму галава...**

24 сакавіка 1999 года Гарадзеншчыну наведаў прэм'ер-міністр Беларусі Сяргей Лінг. Між іншым, ён цікавіўся падрыхтоўкай да веснавых палявых работ. У час нарады ў аблвыканкаме былі названы кантрольныя лічбы, пра дасягненне якіх вобласць павінна была рапартаваць увосень. Валавы збор прадукцыі раслінаводства планавалася павялічыць на 16,6 працэнта. Меркавалася, што ўраджай зерневых складзе 32,4 цэнтнера з гектара, бульбы - 177 ц/га, цукровых буракоў - 355 ц/га, ільновалакна - 7 ц/га. Ставілася задача старанна апрацаваць 387,4 тысячы гектараў пасеваў.

Былі пашыраны плошчы пад асноўныя культуры. Пшаніца заняла 60,4 тысячы гектараў супраць 55,3 тысячы гектараў у 1998 годзе. Азімае трыцікале - 49,3 тысячы гектараў (33,8 тысячы гектараў), бульба - 12,7 тысячы гектараў (12,1 тысячы гектараў). На 700 гектараў пашырыліся плантацыі цукровых буракоў, на 300 гектараў - ільну, на 2,6 тысячы - кукурузы.

Як заўсёды, перад пачаткам уборачных работ зашчыравалі дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі (ці дэзінфармацыі?). Пра што толькі не пісалі! Пра разгортванне на жніве спаборніцтва, дапамогу гараджанаў вёсцы, абеды ў полі, уручэнні пераходных вымпелаў, сямейныя экіпажы... І пры гэтым абавязкова стараліся кагосьці пераканаць на словах: абавязкова будзем з хлебам! Іншыя з газетных борзапісцаў і тэлевізійных балбатуноў мясцовага гатунку раз-пораз гаварылі пра магчымую біялагічную ўраджайнасць збажыны - 47 цэнтнераў з гектара. Гэта тое, што дала прырода, без уліку стратаў пры касавіцы, перавозцы, крадзяжах і г.д. Забягаючы наперад, адзначым, што гэтыя ж так званыя журналісты бліжэй да восені раптам пачалі гаварыць пра атрыманы ўраджай, выкарыстоўваючы састарэлую меру вагі - пуд. Далёка не ўсе ведаюць, што пуд роўны 16-ці кілаграмам.

Узгадваецца пісьменнік Аляксей Карпюк. У 1940 годзе, успамінаў ён, новая на тутэйшых землях Савецкая ўлада шмат пісала пра сотні мільёнаў пудоў атрыманага зерня. Заходнебеларускія аднаасобнікі паслінявілі хімічны аловак і падлічылі ўраджайнасць. Аказалася 15-17 цэнтнераў з гектара. На землях Гарадзеншчыны такі ўмалот атрымлівалі без асаблівых намаганняў і, галоўнае, без прапагандыцкага шалупіння. Гэта тое самае, што лічыць пабудаваныя кватэры ў квадратных метрах. Лічбы ўражваюць, а кватэраў мала. Чарга на іх атрыманне не змяншаецца. Гэткі жарт у стылі сацыялістычнага рэалізму, які пасяхова выкарыстоўваецца ў нашы дні...

Зразумела, тыя, хто планаваў атрымаць ураджайнасць збожжавых па 32,4 цэнтнера з гектара, ведалі пра недасягальнасць гэтага паказчыка. Аднак «заказаць» менш за мінулагодні не маглі. Дарэчы, ураджайнасць-98 таксама мае разбежку ад 29,3 да 31,3 ц/га. Гэта як у якой газеце напішуць, праз якое радыё пачуеш. Аграрныя камандзіры вобласці ведалі, што ў 1998 годзе валавы збор зерня на Гарадзеншчыне скараціўся на 11 працэнтаў у параўнанні з папярэднім годам. 66 гаспадарак (22%) ад агульнай колькасці (299) атрымалі ўраджайнасць збожжавых да 20 ц/га. І толькі 11 калгасаў і саўгасаў узялі на круг вышэй 40 ц/га. У дзяржрэсурсы з вобласці паступіла 277,7 тысячы тон зерня.

У мінулым годзе ставілася задача сабраць 1 мільён 300 тысяч тон збожжа, альбо па тысячы кілаграмаў на кожнага жыхара вобласці. Гэта сусветная норма на чалавека. Аднак яшчэ падчас уборкі ўзнікла лічба 250-300 тысяч тон, якія неабходна закупіць па-за межамі вобласці. Адразу моцна загучала старая песня пра сухмень і прыродныя катаклізмы, зону рызыкоўнага земляробства. Маўляў, вось каб не сонца такое гарачае ды каб дождж своечасова паліў... Аднак мы ўсё роўна напорадзе ў Беларусі. Там справы яшчэ горш, і да нашай ураджайнасці ім далёка. Пра суседнія Польшчу і Літву сарамліва маўчалі. Сёння фермеры гэтых краінаў не ведаюць, куды збыць атрыманае збожжа.

Яшчэ заканчвалася ўборка, а мясцовыя дзяржаўныя газеты ўжо адварочваліся ад гэтай тэмы. Ураджайнасць па вобласці стараліся лішні раз не нагадваць, не гаварычы пра кантрольныя лічбы, запланаваныя ўвесну. Хваліцца не было чым. Зерневых і зернебабовых сабрана на круг па 24,1 ц/га. Намалочана 873,3 тысячы тон зерня, што на 181,8 тысячы меней, чым у 1998 годзе (1.040). Дзяржаве планавалася прадаць 260 тысяч тон. У лепшыя гады агульны намалот складаў 1,3-1,5 мільёна тон. Не парадавала бульба, ураджайнасць была ў межах 125 ц/га (у 1998 годзе - 175 ц/га). Слабымі былі цукровыя буракі, лён.

Але дажынкі ў гаспадарках прайшлі шумна і весела. Перадавікі атрымалі сваё. За гучнымі словамі віншаванняў і звонам шклянак ніхто не захацеў гаварыць пра сумнае. Па Беларусі ўраджайнасць летась склала 17 ц/га. Гэта самы нізкі паказчык за апошнія 20 гадоў. Валавая вытворчасць зерня ледзь дасягнула 3,7 мільёна тон (7 мільёнаў 35 тысяч пры ўраджайнасці 26,6 ц/га ў 1990 годзе). У мінулым годзе Літва мела зерневы клін прыкладна 30% ад беларускага і атрымала больш 2,5 мільёна тон збажыны. Беларусь зараз часткамі закупляе два мільёны тон фуражнага зерня і яшчэ 600 тысяч тон харчовага, якое нам пастаўляюць Літва, Украіна, Краснадарскі край і Валгаградская вобласць Расейскай Федэрацыі, Казахстан. 30 працэнтаў аплаты складаюць бартэрныя пагадненні. А гэта як правіла вялікія пераплаты.

Плошча, занятая пад азімінай, у 2000 годзе складае на Гарадзеншчыне 191 тысячу гектараў, з якіх 168 тысяч адведзена пад зерне. Трыцікале займе 30 працэнтаў, пшаніца - 19, азімае збожжа - 51 працэнт. Трэба чакаць актывізацыі ў правядзенні абласных семінараў па абмену досведам, узаемаправерак і праверак. Лепшыя тэрміны для пасяўных работ на Гарадзеншчыне да 24 красавіка.

Зноў будзем з хлебам!

**Антон Лабовіч**



# РЭКЛАМА Тэлефон: (0152) 72-29-96, 72-37-14




## ПРАДАЮ

∀Выдатны цагляны гараж (па пр.Касманаўтаў) з бетонным падвалам, дзе добра захоўваецца бульба ды інш. Тэрмінова. Тэл. 47-83-12.

∀Металічны гараж у раёне таксапарка (кошт - 350 у.а.) ці мяняю на аўтамабіль з даплатай. Тэл. 44-47-16.

∀Аўтамабіль «Сеат Ібіца» 1991 г.в., колер «металік», кошт - 1300 у.а. Тэл. 47-17-89.

∀Аўтамабіль «Масквіч-412» 1974 г.в. па запасных частках. Звяртацца: г.Гродна, вул.Томіна, 10-47б.

∀Аўтамабіль «Pioneer» б/у, калонкі б/у, новы аўтамабільны ўзмацняльнік. Тэл. 73-00-00 (аб.95352).

∀Аўтамабіль ІФА-50L, у добрым стане. Танна. Тэл. 99-76-93.

∀Аўтамабіль ВАЗ-2106, 1999 г.в., новы, колер «металік». Тэл. 72-50-35.

Гульнёвую прыстаўку Sony Play Station. Кошт - 110-120 у.а. Тэл. 5-91-93.

∀Драўляны дом у Полацку (48 кв. м) з тэлефонам. Ёсць сад, агарод. Вельмі танна. Тэл. (8-017) 502-78-90, (8-017) 230-02-44 (увечары).

∀Дом двухузроўневы, трохпакаёвы, хол, камін, усе выгоды, у цэнтры г.Гродна, каля дома - гараж; а таксама дом у вёсцы. Тэл. 47-17-89.

∀Запчасткі Вольва-340, 1.6D. Тэл. 44-10-64.

∀Усе вузлы і агрэгаты для самаробнага трактара. Плуг конны, новы. Тэл. (8-264) 2-18-84.

∀ 2-пакаёвая кватэра з усімі выгодамі ў прыгарадзе Менска, ёсць гараж, агарод. Танна, тэрмінова. Тэл. (8-017) 502-78-90, (8-017) 230-02-44 (увечары).

Горныя лыжы (балгарскай вытворчасці) «Mladost», а таксама мацаванне і палкі для лыжаў. Тэл. 33-09-60 (у любы зручны для вас час).

∀Лыжы «Телеханы»; жаночую норкавую шапку. Тэл. 74-09-19.

∀Магнітафон-прыстаўку «Вега 122С», узмацняльнік «Вега», новы фотаапарат «Зеніт», фотапавелічальнік ды іншыя прыналежнасці для фотасправы. Тэл. 73-00-00 (аб.95352).

∀Відэамагнітафон «Панасонік-225», новы, з гарантыяй. Тэл. у Ваўкавыску 4-49-81, 4-49-05.

∀Плафон-таксі - 20 у.а.; новы, задні амартызатар да ВАЗ 2108-09 - 15 у.а., бочкі металічныя - 15 у.а. Тэл. 44-47-16.

∀Кухню імпартную «Елена», маленькую канапу, пральную машыну «Мара», новую батарэю на 10 рэбраў (Польшча). Тэл. 31-24-73.

∀Два новыя крэслы-ложкі. Тэл. 99-62-48.

∀Два крэслы, канапу-ложак. Тэл. 44-39-15.

∀Шубу мужчынскую (штучнае футра); фотасветлафільтры, карнізы, дыпламат, пласцінкі, трансфарматар 220х12 В, люстру, кніжныя шафы; усё б/у. Тэл. 33-59-87.

∀Два жаночых трыкатажныя касцюмы (новыя, памеры 50 і 52). Тэл. 2-85-77.

∀Коўдру пуховую 1,5-спальную, ружовага колеру. Кошт - 17 млн.руб.; дзверы уваходныя ў прыбіральню і ванную - па 500 тыс. руб.; электравафельніцу - 10 млн. руб. Тэл. 33-46-02

∀Шынэль (памер 46, рост 3), кошт - 3 000; гітару вытворчасці барысаўскай фабрыкі, б/у, кошт - 7 000. Тэл. 6-69-65 (пасля 16.00).

∀Газавы балон з рэдуктарам; Падольскую ручную швачную машыну б/у. Тэл. 74-38-34.

∀Вагонку, плінтус, налічнік. Тэл. 72-30-27.

∀Шыфер металічны ацынкаваны, р.1,0х2,0 м. Тэл. (01632) 7-19-30.

∀Цяпліцу пад шкло. Тэл. 47-19-64.

## КУПЛЮ

∀Электрачайнік. Тэл. 6-69-65 (пасля 16.00).

∀Калькулятар 14,16-разрадны. Тэл. 31-15-83.

∀Значкі дэпутатаў ВС БССР, СССР, Беларусі, кнігу «Птицы Белоруссии». Тэл. 47-19-64.

∀Куплю наступныя выданні: 1) «Беларуская энцыклапедыя» т.1; 2) «Ілюстраваная храналогія гісторыі Беларусі» т.1; 3) «Энцыклапедыя гісторыі Беларусі», т.4; 4) Энцыклапедычны даведнік «Беларусь». На абмен прапаную: 1) Міхась Ткачоў «Замкі і людзі»; 2) Кастусь Тарасаў «Памяць пра легенды»; 3) Генадзь Сагановіч «Невядомая вайна»; 4) кніжкі з серыі «Нашы славутыя землякі». Тэл. 47-24-00.

∀Кнігу «Птицы Белоруссии». Тэл. 47-19-64.

∀Зерне. Тэл. 74-33-94.

## ПАСЛУГІ

∀Абследаванне і лячэнне хранічных хваробаў па методыцы Р.Фоля. Ліц. МЗ РБ N224 да 2001 г. Тэл. (8-017) 258-88-14.

∀Паслугі ветэрынарнага ўрача. Ліц. 10-264 ад 22.09.97 г. па 2002 г., выдадзеная Міністэрствам с/г. Тэл. 2-73-48.

∀Пераклады з польскай мовы на расейскую, беларускую і наадварот. Кошт адной старонкі - 150 тысяч рублёў. Тэл. 5-33-70.

Доктар С.КАЛЯДА: інтэнсіўная псіхатэрапія АЛКАГАЛІЗМУ, ЗАЛІШНЯЙ ВАГІ. Найноўшыя методыкі. Тэл. 74-35-46 (да 18.00). Ліц. N796 па 2004 г., МЗ РБ.

∀Балгарская, беларуская мовы: пераклады любой складанасці, індывідуальнае навучанне. Тэл. 2-85-77.

∀Ангельская мова - усе ўзроўні. Тэл. 31-15-83.

∀Гітара: урокі класічнай ігры па скарочанай методыцы з кароткім азнаямленнем з асновамі элементаў тэорыі музыкі і музычнай гармоніі. Тэл. 72-16-55.

Кладу печы - якасна і з душою. Тэл. 6-46-32.

∀Дапамагу студэнтам у выкананні кантрольных, курсавых, дыпломных работ па будаўнічых дысцыплінах, уключаючы фізіку, супрамат, тэхнічную і тэарэтычную механіку. Тэл. 72-16-55.

∀Відэаздымка. Якасна выканаем работы па стварэнню відэафільма пра Ваш лёс, юбілей, прэзентацыі. Ліц. N613, выд. МК да 2004 г. Выязджаем на месца здымкі на сваім транспарце. Тэл. у Ваўкавыску 2-34-86.

## ЗДЫМУ

Аднапакаёвую ці дзвюхпакаёвую кватэру ў раёне Грандзіцкага рынка. Кошт 30-40 у.а. Тэл. 72-37-14 (з 10.00 да 17.00).

## РОЗНАЕ

∀Знайшоў ключ ад «Аўдзі» з электронным начыненнем. Тэл. 47-19-64.

Шукаю працу па падшыўцы і падклейванню падэшваў у абутку. Тэл. 31-77-41 (у любы зручны для вас час).

∀Шукаю працу па догляду і выхаванню дзіцяці. Маю вышэйшую педагагічную адукацыю. Тэл. 31-53-00.

∀Брыгада прафесійных грузчыкаў шукае разгрузачна-пагрузачную працу. Тэл. 47-32-36.

∀Прыму на пастаянную работу грамадзянку Беларусі, адзінокую, да 40 гадоў. Харчаванне і кватэра бясплатна ўзамен за хатнюю дапамогу. Лісты (са здымкам) пішыце папольску на адрас: Wieslaw Zambrzycki, 15-161 Bialystok, ul. Nadbuzanska 44. Тэлефануйце на нумар (0-85) 6762995 (пасля 18.00).

∀Шукаю спонсараў для выдання сваіх вершаваных і празаічных твораў. Упэўнены, яны будуць чытацца свядомымі беларусамі ў нас і ў дыяспарах замежжа. Пісаць: 225149, Брэсцкая вобл., Пружанскі р-н, в.Лінова, вул. Маладзёжная, 32. Тэл. 5-10-06.

∀Шукаю працу па рамонту аддзення. Тэл.5-34-14.

∀Шукаю працу (вышэйшая адукацыя, валодаю балгарскай, польскай мовамі). Тэл. 2-85-77.

Шукаю працу па нарэзцы пратэктару шынаў легкавых, грузавых машынаў усіх марак. Тэл. 44-39-15.

∀Калі Вы - не гультай і шукаеце цікавую працу - пішыце на адрас: 230003, г.Гродна, да запатрабавання, п/п 0223216 + канверт з а/а і пажадана купон б/а.

∀Былы стрэлачнік шукае працу. Патрэбен інтэрнат. Звяртацца на адрас: 225653, Брэсцкая вобласць, Лунінецкі раён, в. Дзятлавічы, вул. Гарадзецкага,8 (Станіслаў Бугар).

∀Сябры, «Кроя», я ваш прыхільнік, хачу наладзіць з вамі зносіны. Пішыце на адрас: Лідскі р-н, г.Бярозаўка, вул.Школьная, 12а.

∀У Маскве здолею выканаць ваша даручэнне па розных пытаннях (мужчына, 39 гадоў, вышэйшая адукацыя). Тэл. (017) 544-33-09.

∀Патрабуецца спецыяліст па вырабу формаў для выпечкі вафельных каржоў. Тэл. 47-32-36.

∀Шукаю працу па якаснай зборцы мэблі. Тэл. 47-32-36.

∀Працуе група грамадскіх назіральнікаў БХК па абароне правоў і свабодаў чалавека. Прымаюцца паведамленні грамадзянаў аб неправамерных дзеяннях, якія былі ўчынены ў дачыненні да іх супрацоўнікамі праваахоўных органаў. Тэл. 44-61-43.

∀Прапаную інфармацыю: як пазбегнуць памылак пры працаўладкаванні за мяжой, як абараніць сябе ад розных злачынцаў. Маю досвед працы ў Чэхіі. Пішыце на адрас: 231300, г.Ліда-11, п/с 70.

∀Жанчына 45 гадоў шукае працу ў Польшчы па догляду за састарэлымі людзьмі. Тэл. (8-0152) 44-64-59 (пасля 20.00).

Шукаю працу па абіўцы мяккай мэблі. Забяру непатрэбную старую мэблю. Тэл. 44-39-15.

∀Збіраю архіў незалежнага беларускага друку. Набуду ўсе незарэгістраваныя выданні (на Вашых умовах). Буду ўдзячны за супрацоўніцтва. Тэл. (8-0172) 213-49-83, 283-26-62.

Выстава аўдыё-відэа-кнігапрадукцыі аднаўляе сваю працу па новым адрасе: г.Гродна, вул. К.Маркса, 11, 2-і паверх. Чакаем Вас кожны панядзелак і сераду з 17 да 20 гадзін.

∀Шукаю працу па рамонту пыласосаў. Тэл. 6-45-74.

∀Ахвотныя атрымаць газету «Беларускі калекцыянер» N1(18), 2(19) за 1999 г., дашліце замову, свой дакладны адрас і 80 рублёў за нумар Алесю Сярожкіну, п/с 46, 211030, Орша-9.

∀Вазьму ў падарунак канапу. Тэл. 74-09-19.

∀Студэнцкі білет за нумарам 97-1177 ГрДзУ імя Я.Купалы навучэнца юрыдычнага факультэта Аляксандра Іосіфавіча Сабалеўскага лічыць несапраўдным. Тэл. 31-41-29.

## ЗНАЁМСТВЫ

∀Дзяўчына шукае сябра. Пра сябе: 15/168/65, брунетка з зялёнымі вачыма. Адкажу ўсім. Пісаць: 231767, Гарадзенская вобласць, Гарадзенскі р-н, п/о Жыдомля, в.Абухавічы, п/с 36 (Мароз Юліі).

∀Пазнаёмлюся з добрым надзейным мужчынам. Тэл. 74-12-83 (пасля 19.00, паклікаць Ганну).

∀Стройная, прыстойная жанчына 44/160, для якой на першым месцы - узаемапавага і ўзаемаразуменне, пазнаёміцца з інтэлігентным мужчынам 47-55 гадоў для сур'ёзных адносінаў. Пісаць на адрас: 230025, Галоўпаштамт, п/д 502220.

∀Мужчына, 35/175, пазнаёміцца з жанчынай для сустрэчаў. Лісты дасылайце на адрас: 230023, г.Гродна, Галоўпаштамт, п/д И028327.

∀Пазнаёмлюся з добрай дзяўчынай для далейшых сустрэчаў. Пра сябе: 18/185/70, вучуся ва універсітэце на першым курсе, займаюся спортам. Без шкодных звычак. Адкажу ўсім. Тэл. 44-42-77 (паклікаць Юрыя).

∀Мужчына, 35/163/70, без шкодных звычак, разведзены, пазнаёміцца з прыстойнай жанчынай да 40 гадоў. Пісаць: 230026, г.Гродна-26, а/с 44.

∀Шукаю смелую, незалежную жанчыну, якой аддам цяпло душы і сэрца дабрыню. Падрабязнасці - пры перапісцы. Лісты дасылайце на адрас: 211800, Віцебская вобл., г.Глыбокае (Сірэнка Віктару).

∀Пазнаёмлюся з мужчынам да 52 гадоў, вольным, працавітым, якому абрыдла адзінота. Лісты дасылайце на адрас: 230025, г.Гродна, п/п КН 0151275.

∀Жанчына, 40/160/53, пазнаёміцца з забяспечаным мужчынам для стварэння сям'і. Пішыце на адрас: 231600, г.Масты, да запатрабавання, п/п КН 0185466.

∀Мужчына, 32/172, пазнаёміцца з жанчынай для сур'ёзных адносінаў з мэтай стварэння сям'і. Пісаць: 231960, г.п. Свіслач, да запатрабавання, п/п КН 0185762.

## ВІНШАВАННІ

∀Шчыра віншуем з першымі ўгодкамі плённай і самаадданай працы ў газеце ПАГОНЯ мегаспецыяліста камп'ютарнай вёрсткі *Аляксея Салея*! Жадаем дасягнуць усіх непакорных вышыняў, калі такія яшчэ засталіся, увесь час удасканальваць прафесійнае майстэрства і надалей заставацца лепшым з лепшых! Шчасця, паразумення з усімі, чароўнага кахання, поспехаў і ўдачы заўжды і ва ўсім!

**Твае калегі**

∀Віншую маю каханую дзяўчыну, *Светачку Сімакову*! Ужо паўтара года мы разам, і я абяцаю кахаць цябе ўсё жыццё! Ніколі цябе не кіну і не падману. Жадаю табе шчасця, поспехаў у працы і ўсяго самага-самага найлепшага.

**Твой каханы Рыгор**

∀Віншуем *Юлію Аляксееву* з Днём нараджэння! Жадаем асабістага шчасця, здароўя, каб спраўдзіліся твае добрыя намеры і ўдаліся вялікія справы.

**Рэдакцыя газетаў «Саламея» і ПАГОНЯ**

∀*Ігар!* Ну ты ж ведаеш, хто цябе кахае больш за ўсіх? З днём народзінаў, мілы.

**Юныя Нахабныя Эратычныя Ля-ля-лЯ**

∀*Суровага* змагара за званне мастаком звацца віншуем з днём народзінаў! *Алесь*, мы ж ведаем, хто лепшы...

**Юлькі**

∀Лепшую вярстальшчыцу, наборшчыцу, маталышчыцу, рэзальшчыцу, складальшчыцу *Юлію Аляксееву* віншуюць лепшыя пісальшчыцы, друкавальшчыцы, фальцавальшчыцы Юлі Д. і К°. Жадаем, каб файлы, байты, ворды ды іншыя мэйкеры не мелі над табой улады.

∀*Сурык!* Галоўнае, каб у тваіх чароўных фарбах ніколі не было вады. Ведай! На тваe пэндзлі гатовыя пайсці лепшыя ваверкі Беларусі.

**ПАГОНЯ**

∀*Валерка!* Ну вось і дачакаліся - табе ўжо можна (акрамя ўжывання моцных спіртных напояў і займання пасады прэзідэнта), але, мабыць, і гэтага дачакаемся.

**Адарваныя гузікі**

∀Дарагая *Алена Пракапеня*! Віншуем цябе з Днём нараджэння! Жадаем шчасця, кахання, поспехаў.

**Твае сябры**




### 4 лютага

**485 гадоў таму (1515 г.)** у Нясьвіжы нарадзіўся **Мікалай Радзівіл Чорны**, палітычны, культурны й рэлігійны дзеяч Вялікага княства Літоўскага. Юнацтва Мікалай Радзівіл правёў пры каралеўскім двары ў Кракаве, дзе адбылося сяброўскае збліжэньне з будучым вялікім князем літоўскім і каралём польскім Жыгімонтам II Аўгустам. У 1544 годзе Мікалай Радзівіл атрымаў уплывовую пасаду земскага маршалка. Удзельнічаў у пасольскіх місыях у іншыя дзяржавы. У 1574 годзе падчас падарожжа ў Аўгсбургу атрымаў ад імпэратара Сьвяшчэннай Рымскай імпэрыі Карла V права на княжацкі тытул для сябе й асобных прадстаўнікоў свайго роду. У 1549 годзе ўдзельнічаў у ваенных дзеяньнях супраць татараў на Валыні. У 1550 годзе атрымаў пасаду канцлера ВКЛ. У 1551 годзе атрымаў права на захоўваньне найважнейшых дзяржаўных актаў у сваім архіве. У 1553 годзе выязджаў з дыпляматычнай місыяй да Габсбургаў, каб прадухіліць магчымы габсбургска-маскоўскі хаўрус. Вынікам яго дыпляматычнай дзейнасьці стала ў 1561 годзе інкарпарацыя Польшчай і ВКЛ большай часткі Лівоніі й ліквідацыя там Ордэну мечаносцаў.

Мікалай Радзівіл быў прыхільнікам незалежнасьці ВКЛ, на соймах выступаў за яго суверэннасьць у складзе Рэчы Паспалітай. Зь яго імем зьвязана распаўсюджваньне й прапаганда рэфармацыйных ідэяў у ВКЛ. З сярэдзіны 1550-х гадоў Радзівіл Чорны прыняў кальвінізм, стаўшы галоўным пратэктарам пратэстанцтва. Валодаючы вялізнымі маёнткамі, заснаваў вялікую колькасьць пратэстанцкіх храмаў-збораў. У 1533 годзе заклаў пры Берасьцейскім зборы першую на тэрыторыі Беларусі друкарню, дзе выдаў Біблію. Пад яго апекай дзейнічала друкарня ў Нясьвіжы. Памёр Мікалай Радзівіл Чорны 29 траўня 1565 года. Пахаваны пры Віленскім зборы. У 1647 годзе парэшткі яго й ягонай жонкі ўрачыста былі перазахаваны ў Дубінках (цяпер на тэрыторыі Летувы).

**Падрыхтаваў Уладзімер Хільмановіч**

## Гарадзенскі ўікэнд



**Гісторыка-археалагічны музей. Стары замак.** Выстава «Гродна, адкрыты археолагамі». Новы замак. Авальная зала. Працяг выставы японскага мастацтва.

**Галерэя «Тызенгаўз» (пл. Тызенгаўза, 4).** Выстава гарадзенскіх мастакоў: жывапіс, графіка. Працяг выставы твораў навучэнцаў гарадзенскага ліцэя N1.

**Галерэя «У Майстра» (вул. Кірава, 14).** Працяг выставы жывапісу Аляксандра Ізобава.

**Музей Гісторыі Гарадніцы (вул. Ажэшкі, 37).** Выстава «Калядная зорка» - калядная кампазіцыя з твораў народнай творчасці: святочнае адзенне, саламяныя елачныя цацкі, калядныя маскі ды іншае.

**Выставачная зала Саюза мастакоў.** Выстава Васіля Мартынчука: жывапіс, кераміка.

**Галерэя «Раскоша» (вул. Ажэшкі, 39а).** Выстава антыкварыяту і твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

**Цэнтр народнай творчасці (Савецкая,8).** Выстава традыцыйнага рамяства Гарадзеншчыны. Ткацтва.

**Дом мастацкай і тэхнічнай творчасці моладзі (Замкавая,13).** Выстава мастацкай фатаграфіі.

**Музей Максіма Багдановіча** запрашае з 10.00 да 18.00. Выходныя дні: нядзеля, панядзелак.

**Тэатр лялек.** 5 лютага - «Кот Васька і яго сябры»; 6 лютага - «Папялушка». Пачатак у 12.00.

**Драмтэатр.** 5 лютага - «Разбойнікі»; 6 лютага - «У наступным годзе ў той жа час». Пачатак спектакляў у 19.00.

**Газета ПАГОНЯ**
**Запрашае на працу**
*пенсіянераў, студэнтаў, школьнікаў і часова непрацуючых - для распаўсюджвання нашай газеты!*
*Тэл. 72-37-14, 72-29-96*

**ПАГОНЯ купон прыватнай бясплатнай аб'явы**

5 Імя і прозвішча ____________________

Адрас (тэлефон) ____________________

Рубрыка ____________________

Тэкст ____________________

Аб'явы, дасланыя на купонах, друкуюцца ў першую чаргу; неразборліва напісаныя аб'явы не друкуюцца

Купон з тэкстам адпраўце па пошце на адрас: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11



ПЯРЭСТЫ КУТ

# На «пераправе» планаў не мяняюць

**«Гродна-93» скончыла першы этап лідарам без паразаў. Якія вынікі ў каманды пасля першага этапу і якія задачы стаяць перад камандай на другім этапе, каментуе галоўны трэнер гарадзенскай каманды Аляксандр Барысаў.**

***- Як Вы ацэньваеце выступленне Вашай каманды на папярэднім этапе?***

- Мы дамагліся станоўчых вынікаў на першым этапе чэмпіянату. «Гродна-93» заняла месца лідара пасля гэтага этапу са 100-працэнтным вынікам. Што дае нам права сваёй пляцоўкі напрыканцы другога этапу. У міжсезонні мы правялі некаторыя змены ў складзе нашай каманды, але захавалі асноўны яе касцяк. І гэта дазволіла нам ужо на першым этапе пацікy стабілізаваць гульню каманды.

***- Ці ёсць у Вашай камандзе сапраўдны лідар, які ў любы момант можа павесці за сабою ўсю каманду?***

- Не, такога лідара ў камандзе няма. Можа, гэта і да лепшага. У нас ёсць некалькі гульцоў, здольных быць лідарамі. У апошняй гульні такую ролю на сябе ўзяў А.Кавшчук (28 ачкоў).

***- Якія задачы пастаўленыя перад камандай на наступным этапе?***

- Каманда павінна захаваць за сабою месца лідара чэмпіянату Беларусі. Калі мы вырашым гэтую задачу паспяхова, і напрыканцы другога этапу будзем займаць першы радок чэмпіянату, тады ў вырашальным матчы «play-off» мы будзем мець права «сваёй пляцоўкі». Чым, я спадзяюся, вельмі ўзрадуем сваіх заўзятараў.

## КАЛЕЙДАСПОРТ

### Ізноў беларусы знізу...

У мінулыя выхадныя ў Кіеве прайшлі першыя матчы другога этапу УЕХЛ з удзелам беларускіх і ўкраінскіх камандаў. У адной з пар сустракаліся гарадзенскі «Нёман» і кіеўскі «Сокал».

Гэтыя матчы праходзілі ў Палацы спорту ўкраінскай сталіцы. На першым з іх прысутнічала 3500 заўзятараў, а на другім і таго болей - каля 4500. Абедзве сустрэчы праводзілі кіеўскія арбітры і, трэба адзначыць, не лепшым чынам. На жаль, для заўзятараў гарадзенскай каманды, другі этап нашыя землякі пачалі не ў лідарах: абедзве гульні «Нёман» прайграў 1:3 і 2:7.

Значыцца, справа не толькі ў Лядовым палацы, але і ў нечым яшчэ...

Таксама пацярпеў паразу і навапалацкі «Палімір». Ён прайграў кіеўскаму «Беркуту». Такім чынам, украінцы зверху, а беларусы знізу турнірнай табліцы. Наступны матч гарадзенцы правядуць у Лядовым палацы ў Гродне.

### Травяны хакей

Яшчэ раз гарадзенцы даказалі, што ў нас найлепшая школа па травяному хакею. На юніёрскім турніры па травяному хакею ў зачыненых памяшканнях, які праходзіў у спартовай зале ПТВ N199 з 28 па 30 студзеня. На гэты турнір прыехалі восем камандаў з Брэста, Кобрына і Гродна. Тут прымалі ўдзел толькі хлопцы і дзяўчаты 1985/1986 гадоў нараджэння. Турнір праходзіў па кругавой сістэме: кожная каманда пазнала сваіх супернікаў. У фінале спачатку гарадзенскія юнакі былі мацнейшымі за сваіх супернікаў з Брэста. А праз некаторы час і дзяўчаты з гарадзенскай ДзЮСШ сталі лепшымі на гэтых спаборніцтвах.

### Цяжкая атлетыка

29-30 студзеня ў спартовай зале ВПТВ імя Шчаснага адбыўся чэмпіянат Гарадзенскай вобласці па цяжкай атлетыцы.

У гэтых спаборніцтвах прынялі ўдзел 59 спарцменаў з вобласці: тут былі прадстаўленыя Смаргонь, Ліда і Лідскі раён, Скідаль, Гродна. У пяці вагавых катэгорыях перамогу святкавалі гарадзенскія цяжкаатлеты (І.Барцэвіч, С.Грыбоўскі, Ю.і В.Капранавы, А.Паўлоўскі). І толькі ў катэгорыях 56 і 77 кілаграмаў перамогу атрымалі Г.Рудзевіч з в.Беліца Лідскага раёна і С.Кіменьшу з Ліды.

Тое, што гэтыя спаборніцтвы, нягледзячы на шматлікія перашкоды, адбыліся, - заслуга гарадзенскага трэнера з ДзЮСШ па цяжкай атлетыцы В.Ігнацені.

### Аднаўляюць «Скураны мяч»

У часы Савецкай улады праводзіліся турніры пад назвай «Кубак скуранога мяча». У наш час аддзелам па фізічнай культуры і спорту Гарадзенскага гарвыканкама зроблена спроба аднавіць гэтыя турніры.

Спачатку да ўдзелу былі дапушчаныя 54 каманды. Тут былі і дваровыя каманды, і каманды майстроў. Узрост футбалістаў павінен быць не менш, чым пятнаццаць год. Спачатку ўсе каманды праходзяць праз адборачны турнір, і толькі лепшыя з іх трапяць у фінальны тур. Адзін з такіх адборачных этапаў прайшоў на гарадзенскім стадыёне «Нёман».

Завершыцца гэты турнір у сярэдзіне сакавіка.

Падрыхтаваў Юрый Кузняцоў

**Па гарызанталі:** 7. Той, хто скончыў свой зямны шлях. 8. Тканіна фабрычнага вырабу. 10. І партызанскі, і піянерскі. 11. Саматканая спадніца. 12. Гарадзенскі князь, адзін з арганізатараў разгрому нямецкіх рыцараў у Грунвальдскай бітве. 14. Аповесць Барыса Сачанкі. 16. Зборнік вершаў Генадзя Бураўкіна. 17. Закончаны курс лекцыяў. 19. Лясны стукач. 20. Іначай - гаць. 24. Пасланец Бога. 25. Густачырвоны колер. 26. Ад кіслот чырванее, ад шчолачаў сінее. 30. Фігура вышэйшага пілатажу. 31. Роў з брустверам. 32. Мазь для чысткі скуранога абутку. 33. Маральная ацэнка сваіх учынкаў. 34. Разнавіднасць блясны.

**Па вертыкалі:** 1. Беларускі асветнік, паслядоўнік Ф.Скарыны. 2. Від газелі. 3. Апавяданне Якуба Коласа. 4. Кіруючы орган, замест якога ў нас кіруе адзін чалавек. 5. Выпуск папяровых грошай, па якім мы «наперадзе планеты ўсёй». 6. Беларускі актор тэатра і кіно. 9. Зялёная паверхня з водарасцей у сажалць. 13. Беларускі паэт родам са Слонімшчыны. 15. Вапнавы раствор для апрацоўкі шкур. 17. Няходжаная снежная прастора. 18. Рабочая частка збожжавага камбайна. 21. У Гродне іх пакуль што два: медыцынскі і сельскагаспадарчы. 22. Таварышка нявесты ў вясельным абрадзе. 23. На траіх для выпівох. 27. Штат у ЗША. 28. Аўтаматычны пісталет. 29. Турэцкая халодная зброя. 32. Нядобры ўчынак.



### Адказы на крыжаванку, змешчаную ў N4:

**Па гарызанталі:** 7.Лупсякоў. 8.Экспромт. 10.Грыва. 11.Палессе. 12.Коржык. 14.Юкатан. 16.Флякі. 17.Дэка. 19.Хрыбет. 20.Адвага. 24.Ірха. 25.Цуглі. 26.Пярнач. 30.Асвета. 31.Варштат. 32.Афіны. 33.Птушанец. 34.Хадкевіч.

**Па вертыкалі:** 1.Фурманка. 2.Бяроста. 3.Боргес. 4.Ікра. 5.Спакой. 6.Жмерынка. 9.Цыбуля. 13.Шкода. 15.Тарка. 17.Джгір. 18. «Неруш». 21. Дрысвяты. 22.Жлобін. 23.Чараўнік. 27.Ятроўка. 28.Статак. 29.Звычай. 32.Алей.




♈ **Баран (21.03-20.04).** На працы знікнуць усе непрыемнасці. Будзе шмат падставаў для незвычайна добрага настрою.

♉ **Бык (21.04-20.05).** Калі Вам не шанцуе на працы, дык лепей паспрабаваць сябе ў іншай сферы. Надзвычай удалы час для кахання.

♊ **Блізняты (21.05-21.06).** Будзеце вельмі шмат фліртаваць. Мо ўжо надышоў час закахацца па-сапраўднаму?

♋ **Рак (22.06-22.07).** Варта падвесці вынікі праведзенай работы. Не бярыце зашмат на свае плечы.

♌ **Леў (23.07-23.08).** Прыгатуйцеся да зменаў на працы. Калі не шкада нерваў - тады сварыцеся з калегамі.

♍ **Панна (24.08-23.09).** Нарэшце атрымаеце абяцаную некалькі месяцаў таму прэмію. У інтымных зносінах будзеце, як і заўсёды, лепей за ўсіх. Але шукайце яшчэ нешта такое, чым можаце прыемна здзівіць каханага чалавека.

♎ **Шалі (24.09-23.10).** Вас чакае вельмі цудоўны падарунак у бліжэйшыя выхадныя дні. Фартуна ўсміхнецца Вам у чацвер.

♏ **Скарпіён (24.10-22.11).** Самы непрадказальны і поўны нечаканасцяў - суботні вечар. Найлепшы час для атрымання ўзнагародаў.

♐ **Стралец (23.11-21.12).** Вельмі шмат прыгодаў чакаюць Вас на гэтым тыдні. Дзелавыя сустрэчы дапамогуць ажыццявіць Вашы планы.

♑ **Казярог (22.12-20.01).** Зоркі варожаць Вам поспех як у прафесійным жыцці, так і ў асабістых справах. Можаце дазволіць сабе адпачынак.

♒ **Вадалей (21.01-19.02).** Ні слова аб праблемах! Лепей ізноў паспрабаваць дасягнуць сваёй мары.

♓ **Рыбы (20.02-20.03).** Сябры дапамогуць Вам справіцца з цяжкім настроем. У выхадныя дні Вас чакае сюрпрыз, хутчэй за ўсё прыемны.

# Алесь Варламаў: у Гродне я дыхаю на поўныя грудзі




Алесь Варламаў

**Алесь Варламаў - дырэктар і арганізатар конкурса «Супермадэль Беларусі» - апошнім часам часта скіроўваецца са сталіцы ў наш правінцыйны Гродна. Гэтым разам ён рыхтаваў і вёў конкурс дызайнераў «Мадэль года». А праз некаторы час плануе прыняць удзел у правядзенні «Каралевы прыгажосці Гродна-2000».**

***- Спадар Варламаў, якія перспектывы чакаюць сёлетніх пераможцаў «Мадэлі года»?***

- «Мадэль года» - гэта рэгіянальны тур «Супермадэлі Беларусі». Запрошаны лепшыя калекцыі адзення з Гарадзенскай вобласці. Пяць пераможцаў павязуць свае творы ў Менск, дзе паўдзельнічаюць у рэспубліканскім туры «Супермадэлі Беларусі», які пройдзе 22-24 сакавіка.

***- Якія асаблівасці «Супермадэлі Беларусі-2000»?***

- Я б сказаў, што ў гэтым годзе «СБ» выходзіць на новы, вышэйшы ўзровень. Конкурс праводзіцца ўжо восьмы год, і зараз ён стаў міжнародным. Гэтым разам у Менск прыедзе жонка Мікіты Міхалкова Таццяна Яўгенаўна, дызайнер, старшыня дабрачыннага фонда «Рускі сілуэт». Пераможцы «Супермадэлі Беларусі», прафесійныя і непрафесійныя дызайнеры да 35 гадоў паедуць са сваімі калекцыямі ў Маскву, на конкурс дызайнераў постсавецкай прасторы. Лепшыя з лепшых накіруюцца на бясплатныя стажыроўкі ў Еўрапейскіх дамах моды.

***- Якой, на Вашу думку, павінна быць сучасная прыгожая і элегантная беларуская жанчына?***

- Гэта жанчына, якая разумее ўсё, што адбываецца вакол яе і не мае лішніх ілюзіяў пра сябе, пра грамадства і пра свет, у якім жыве. Жанчына, якая адзіным спосабам выйсця з крызісу бачыць сваю актыўную дзейнасць, мудрасць і цярпенне.

***- Якія тэндэнцыі і навінкі беларускай моды Вы б вызначылі на гэты год?***

- Самы цікавы вынік 2000 года - амаль поўная адсутнасць мужчынскай моды. Былі ўжо рэгіянальныя туры «Мадэлі года» ў Брэсце, Гомелі, Магілёве - і бачна, што нічога цікавага ў мужчынскай модзе дызайнеры не прапаноўваюць. Пра што гэта сведчыць? Пра тое, што мужчына павінен мяняцца. Кансерватыўны патрыярхальны мужчына ўжо нікога не цікавіць. Калі мужчына не зменіцца, не зразумее, што ён - чалавек, а не звер, ён можа проста вымерці. Пра гэта сведчаць і сусветныя тэндэнцыі - у Англіі, у маленькай краіне, ажно трыста клінікаў па штучнаму апладненню. Гэта сведчыць пра аслабленне ролі мужчыны.

***- Як у Беларусі праяўляецца вайна палоў у модзе і ў жыцці?***

- Беларусь - адзіная краіна, у якой дызайнер - жаночая прафесія. Жанчыны наогул цяпер развіваюцца больш інтэнсіўна. Яны больш таленавітыя і актыўныя. Адказ просты - яны робяць гэта для сябе. Тут ідзе перамяшчэнне інтэлекту, інтэлігентнасці, біялагічных і эканамічных прыярытэтаў у бок жанчын. Так што Беларусь - краіна жанчын, жаночай моды.

***- З чым, на Вашу думку, звязана такая актывізацыя жанчын, у Беларусі?***

- Мажліва, ім проста не падабаецца свет, пабудаваны мужчынамі па мужчынскіх правілах, і я з імі ў гэтым цалкам згодны.

***- Якое ўражанне аказалі на Вас гарадзенскія модніцы, Гродна?***

- Гарадзенская мода - надзвычай камфортная. Гродна ўвогуле вызначаецца выключна добрым густам, стылем. Нездарма на Гарадзеншчыне - двое «Залатых нажніцаў» - вышэйшых ўзнагародаў дызайнерскага майстэрства на «Супермадэлі Беларусі-99».

Людзі, выхаваныя сярод помнікаў архітэктуры, прыгажосці, пераносяць гэта ў жыццё. Гродна - горад паеўрапейску талерантны, далікатны. Тут пануе высокі дух, цярпімасць, духоўная арыентацыя. Гродна - мой любімы горад, ужо на пад'ездзе да ўскраіны я пачынаю дыхаць на поўныя грудзі.

Алена Сіневіч

ПАГОНЯ
Заснавальнік: культурна-асветніцкі фонд "Бацькаўшчына"

Адрас рэдакцыі: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11. Тэл.72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96. E-mail: pagonia@irex.minsk.by Падпісны індэкс: 63124.

Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскай абласной узбуйненай друкарні. Адрас: 230023, г.Гродна, вул. Паліграфістаў, 4. Замова 315 Наклад 8 370 Нумар падпісаны да друку ў 16.00 02.02.2000 г.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае прадастаўленым рэдакцыяй дыяпазітывам.

Галоўны рэдактар Мікола Маркевіч

Камп'ютарны набор: Аксана Бурдзюк, камп'ютарная вёрстка: Аляксей Салей